


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

14 лютага 2003 года

№ 7 (408)
Выходзіць па пятніцах

ПАНОС Тэлетыдзень

# Калгаснікі пішуць ва ўрад

**АСТРАВЕЦ. Са скаргай на свайго старшыню да прэм'ер–міністра Генадзя Навіцкага звярнуліся калгаснікі калгаса імя Карла Маркса .**

Кожны з трынаццаці скаржнікаў гадуе ад трох да пяці непаўналетніх дзяцей. І з восені мінулага года яны перасталі атрымліваць дапамогу на дзяцей. На неаднаразовыя звароты, гаворыцца ў скарзе, старшыня калгаса адказваў, што няма грошай у калгасе. У Астравецкім раённым аддзеле сацыяльнага забеспячэння калгаснікам адказваюць, што грошы на дапамогу для дзяцей своечасова пералічваюцца ў калгасы. Але старшыня калгаса **Слава Насута** тлумачыць, што ў калгасе грошай няма. У калгаснікаў узнікае пытанне: куды ж дзяваюцца грошы?

Бацькі, што не атрымліваюць дапамогу на дзяцей, звярталіся да начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі **Віктара Даўговіча**, які пацвердзіў, што ў калгасе няма грошай для выплаты на непаўналетніх.

Урэшце калгаснікі звярнуліся да старшыні Астравецкага райвыканкома **Адама Кавалькі** і папрасілі разабрацца і дапамагчы атрымаць належныя ім грошы. У скарзе прэм'ер–міністру сяляне пішуць, што "фактычна Кавалька не пажадаў нам дапамагчы, толькі заявіў пра тое, што няма грошай у калгасе. Нас вельмі абурыла такое стаўленне да нашых бедаў".

"Мы жывём на дзіцячую дапамогу, – працягваюць калгаснікі. – Бо не працуем, знаходзімся ў адпачынку па догляду за дзецьмі. Тое, што нашыя дзеці галадаюць, іх (раённых чыноўнікаў) не турбуе".

У скарзе гаворыцца, што ў дзяцей адабранае законнае права на дапамогу, а гэта значыць, – на маленькую хлебную скарыначку, якая ім належыць. Заяўнікі сумняваюцца ва ўладзе, якая забылася пра свой народ.

Скаржнікі просяць прэм'ер–міністра даць ім адказ, дапамагчы ў выплаце дапамогі і кампенсаваць нанесены ім урон.

Мы пабывалі ў калгасе, цэнтр якога месціцца ў вёсцы Варона. Факты нявыплаты дапамогі пацвярджаюцца. Людзі, якія разлічвалі на дапамогу дзяржавы, не могуць яе атрымаць. Няглядзячы на тое, што калгас не ў горшых, у ім усё адно, як ў многіх гаспадарках, ледзь зводзяць канцы. Як адну з асноўных прычын такога становішча, старшыня калектыўнай гаспадаркі Слава Насута называе запазычанасць перад калгасам прадпрыемстваў малочнай прамысловасці. Завінаваціліся калгасу прадпрыемствы ў Лідзе на 24 млн. рублёў, Смаргоні – 10 мільёнаў і 8 млн. розныя іншыя суб'екты гаспадарання. Старшыня спадзяецца, што даўгі перад калгасам пачнуць пагашацца ў пятніцу.

**Мікола ГАЙДУК, Сяргей МАЦЮШОЎ.**



Максім і Дзіма Русенчыкі з Вароны на Астравеччыне забыліся не толькі пра цукеркі і мандарыны, але і пра тое, што такое нармальнае харчаванне ўвогуле. У сям'і чацвёра дзяцей ад двух да шасці год. Жывёлавод Станіслаў Русенчык і яго жонка Зоя, якая працуе, не атрымлівалі дапамогу на сваіх дзяцей з кастрычніка.

Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

## Навіны рэгіёну

### Дзіця на звалцы

**ВАЛОЖЫН**. У панядзелак на гарадской звалцы бамжы знайшлі ў белай навалачцы трупік нованароджанай дзяўчынкі. За некалькі гадзін устанавілі асобу маці. Ёй аказалая старшакласніца з Валожына.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Мілэдзі са Смаргоні

**СМАРГОНЬ**. У раёне больш за тысячу адзінокіх маці.
Каб дапамагчы і падтрымаць іх, у тэрытарыяльным цэнтры сацыяльнага абслугоўвання на даму "Цёплы дом" стварылі клуб "Мілэдзі".
Але на першую сустрэчу прыйшлі 4 жанчыны.

**Ірына РАБУШКА.**

### Конкурс песні

**АШМЯНЫ**. Заўтра пройдзе раённы конкурс патрыятычнай песні, прысвечаны воінам-інтэрнацыяналістам. Свята наладзілі ў раённым Доме культуры.

**Ірына РАБУШКА.**

### Пасвяцілі ў чытачы

**АСТРАВЕЦ**. На 110 маленькіх чытачоў стала больш у дзіцячым філіяле цэнтральнай бібліятэкі. Гэта адбылося ў сераду падчас "Пасвячэння ў чытачы" вучняў падрыхтоўчых класаў школ райцэнтра.

**Ірына РАБУШКА.**

### Пацвердзілі версію

**МАЛАДЗЕЧНА**. Вынікі экспертызы цела Міхаіла Каламійца ў Кіеве, якога знайшлі павешаным ля Вязынкі 30 кастрычніка, выключаюць гвалтоўны характар яго смерці. Пра гэта паведаміў начальнік галоўнага следчага упраўлення Генпракуратуры Украіны Васіль Чэрнікаў.

**Аддзел Інфармацыі "РГ".**

### Дапамог «Карытас»

**МЯДЗЕЛ**. 5 год каталіцкая дабрачынная арганізацыя "Карытас" аказвае дапамогу Крывіцкай школе-інтэрнату. Гэта і гуманітарныя грузы, рэканструкцыя некаторых памяшканняў. Нядаўна за грошы "Карытаса" адрамантавалі сталовую.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Фестываль замест агляду-конкурсу

**ВІЛЕЙКА.** З 8 па 16 лютага аддзелам адукацыі і цэнтрам дзіцячай творчасці праводзіцца традыцыйны раённы фестываль мастацкай творчасці вучняў школ. Раней ён называўся аглядам-конкурсам мастацкай самадзейнасці, хоць, па сутнасці, нічога не змянілася. На працягу тыдня адбываюцца канцэрты, лепшыя нумары з якіх будуць адабраныя на канцэрт, прысвечаны святу 8 Сакавіка.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

## І для культуры капейка значыць

Культурнае жыццё на Маладзечаншчыне багатае. Але хутка будзе вельмі складана наладзіць нейкую акцыю або правесці фэст – сёлета прадбачацца затрымкі ў зарплаце работнікам культуры.

2-я старонка

## Гарачая вясна яшчэ наперадзе

Беларускіх чаўнакоў чакаюць гарачыя часы. Прыняты Дэкрэт №4 – новы нарматыўны акт у сферы прадпрымальніцтва.

4-я старонка

## Адам Гурыновіч – наш зямляк

Новыя факты з жыцця паэта-дэмакрата. Артыкул Анатоля Рогача.



6-7-я старонкі

■ СТАРЫ АЛЬБОМ

# Школа пры Вілейскай гімназіі

**У 30-я гады мінулага стагоддзя польскія ўлады адчынялі вячэрнія школы. У іх моладзь пасля сямігодак магла атрымаць тэхнічныя веды. У Вілейцы такая школа працавала пры гімназіі. Яе дырэктар адначасова кіраваў і "фахоўкай".**

— Такія школы называліся фаховымі таму, што ў іх атрымлівалі прафесію, па-польску "фах", — у адзін голас тлумачаць яе былыя вучні вілейчане Мікола Красулевіч і Іван Мінайла.

— Навучанне было бясплатнае, — успамінае Мікола Красулевіч. – Настаўнікі гімназіі выкладалі польскую мову і літаратуру, матэматыку, фізіку і хімію. А тэхнічныя прадметы – чарчэнне і курс матэрыялазнаўства – вёў вопытны і таленавіты інжынер Кітаракіс, які пакінуў па сабе ў нашым горадзе добрую памяць: узвёў трохпавярховую бальніцу і Дом культуры насупраць яе. Галоўны ўпор у вучобе рабіўся на дасканалае веданне ўласцівасцяў дрэва, металаў, гліны, каменя і іншых мясцовых будаўнічых матэрыялаў. Тэарэтычныя веды мы ўдасканальвалі ў выдатна абсталяваных майстэрнях.

Зазначу, што выкладаліся і асновы гігіены вопытным доктарам Чоханскай. Для праваслаўных вучняў курс рэлігіі чытаў святар Міракновіч, а для каталікоў – ксёндз з гарадскога касцёла.



Выкладчыкі і вучні школы фаховай. 1-ы рад: Кітаракіс, ксёндз, выкладчыца польскай мовы Валовіч, дырэктар гімназіі, доктар Чоханская, святар Міраковіч. 2-і рад: яўрэйка (прозвішча невядомае), Іван Мінайла, яўрэйка (п.н.), яўрэй – работнік друкарні і фатограф (п.н.), Муха – жаўнер КОПу, Вольга Мінайла, Мікола Дрозд, Ніна Шалкоўская, Мікола Красулевіч.

Фота з сямейнага альбома вілейчаніна Міколы КРАСУЛЕВІЧА.

— У клас набіралася па 30-40 вучняў, — расказвае Іван Мінайла. – Вучыліся 6 вечароў у нядзелю па 3-4 урокі. Закончылі 3-і клас школы фаховай вясной 1938 года. Затым здавалі экзамен патрабавальнай і строгай камісіі. Атрымалі дыпломы на права адчыняць уласныя майстэрні або працаваць па атрыманай спецыяльнасці: у будаўніцтве, вырабе мэблі, вокнаў, дзвярэй, маглі цяслярыць, быць чырванадрэўшчыкамі і г.д.

Івану Мінайлу было не да ўласнай майстэрні: увосень 1938 года яго прызвалі ў Войска Польскае. Служыў у Варшаве, дзе закончыў курсы шафёраў. А 1 верасня 1939 года грымнула вайна: Германія напала на Польшчу, і Іван Рамановіч абараняў Варшаву да капітуляцыі гарнізона. Затым зведаў холад і голад нямецкага палону, пакуль немцы не перадалі ўкраінцаў і беларусаў савецкім уладам. Тады ён змог нарэшце вярнуцца ў родную Вілейку.

Мікола Красулевіч пасля "фахоўкі" год адпрацаваў у Раёўцы на кардоннай фабрыцы за 4 злоты ў дзень. На зароблены грошы ў Куранцы адкрыў уласную слясарню. Рамантаваў веласіпеды і матацыклы – самы перадавы і рухавы транспарт у той час. Пры "тых Саветах" дапамагаў савецкім начальнікам "сядлаць двуколых коней", якіх яны рэквізавалі ў былога польскага начальства і ў паноў-памешчыкаў: абучаў ездзіць на веласіпедах і вадзіць матацыклы. Пэўны час працаваў матарыстам у пажарнай. 8 мая 1940 года стаў чырвонаармейцам. У аўтатранспартным батальёне абучаў маладых байцоў. У Армавіры іх часць вайна падняла па баявой трывозе...

Першыя месяцы вайны былі асабліва цяжкімі. Ім даводзілася пад агнём ворага артцягачамі букsіраваць з поля бою падбітыя савецкія танкі. Пад Ельняй трапілі ў акружэнне: давялося па тылах ворага прабівацца да сваіх. Капрызны лёс адмераў яму цяжкія франтавыя дарогі на "вайне матораў" – ад пачатку і да апошняга яе дня.

Пасля вайны Мікола Іванавіч і Іван Рамановіч пабудаваліся ў Вілейцы побач і сталі суседзямі. Тэхнічныя веды, якія яны набылі ў вячэрняй школе фаховай, спадарожнічалі ім праз усё жыццё.

**Аляксандр НАРКЕВІЧ.**

# І для культуры капейка значыць

**МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак прайшла выніковая нарада работнікаў культуры за 2002 год. Правёў яе загадчык аддзела культуры райвыканкома Аляксандр Рамановіч. У нарадзе ўдзельнічалі маладзечанскія і мінскія кіраўнікі розных устаноў культуры, а таксама работнікі гэтай галіны з усяго Маладзечанскага раёна.**

Спачатку ўсім прысутным паказалі дакументальны фільм аб рабоце працаўнікоў культуры Маладзечаншчыны. Гэта своеасаблівы каляндар падзей Маладзечанскага раёна за 2002 год. Нагадалі пра фестываль народнага гумару "Маладзечанскія пацехі", які прайшоў на базе клубных устаноў раёна. Успомнілі пра 4-е свята-конкурс "Гліняны звон", што быў у Радашкавічах. І пра раённае свята "Каравай-2002" у Палачанах. Адзначылі лепшыя інфармацыйныя і культурныя цэнтры ў раёне. Напрыклад, Красоўшчынскі цэнтр рамёстваў, Беразінскую сельскую бібліятэку.

Ва ўстановах культуры ёсць і праблемы. Для пасялковага Дома культуры ў Радашкавічах і Чысці няма пастаяннага месца. У Хажове, па словах загадчыка аддзела культуры райвыканкома, ён нагадвае Зімні палац.

Што тычыцца матэрыяльнай базы, яе варта палепшыць усім раённым установам культуры. Трэба абнавіць і рэпертуар творчым калектывам. Балючае пытанне, гаворыць А.Рамановіч, — цэнтралізацыя клубнай сістэмы. Намеснік старшыні райвыканкома Наталля Гайковіч зазначыла, што сёлета будзе складаней з выплатай заработнай платы работнікам культуры. Ужо цяпер прагназуюцца яе затрымкі. Раён будзе працаваць на датацыях. Таму ўстановам культуры неабходна і самім зарабляць грошы за кошт пашырэння і ўдасканальвання платных паслуг.



Выкладчык Маладзечанскага музычнага вучылішча па класе баяна Юрый Каламеец рыхтуецца да канцэрта.

Пасля выступлення кіраўнікоў адзначылі лепшых работнікаў культуры. А потым творчыя калектывы і установы Маладзечаншчыны наладзілі канцэрт.

**Ірына РАБУШКА.**

# Сямікласніца ў ліку пераможцаў

**ВІЛЕЙКА. Дыплом другой ступені на рэспубліканскім конкурсе сярод вучняў школ, гімназій, ліцэяў, навучэнцаў ПТВ на лепшы ўласны твор, прысвечаны 120-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа, за верш "Купальскае рэха" атрымала сямікласніца са Сцешыцкай базавай школы-дзіцячага сада Марыя Паўлоўская.**

Пачала пісаць вершы ў пятым класе. Дапамагаюць ёй ў творчасці настаўніцы Марыя Іванаўна Гардзіёнак і Валянціна Міхайлаўна Камянецкая.

### Купальскае рэха

– І ты называешся кветкай?  
– Кветкай.  
– Цвіцеш, безумоўна, улетку?  
– Улетку.  
– А распускаешся на Купалле?  
– Купалле.  
– Людзі цябе шукалі?  
– Шукалі...  
– А ці знайшоў хоць адзін?  
– Адзін...  
– Ён напаткаў цябе ранкам?  
– Ранкам.  
– Завецца той хлопец Янкам?  
– Янкам.  
– Змагаўся Купала за волю?  
– Волю...  
– Шчаслівую меў ён долю?  
– Долю...  
– А змагацца было варта?  
– Варта.  
– Сягоння людзьмі каб звацца?  
– Звацца.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Знайшлі наркотыкі

МАЛАДЗЕЧНА. 7 лютага напачатку 7-й гадзіны вечара супрацоўнікі міліцыі затрымалі грамадзяніна Узбекістана. У яго выявілі 50 грамаў здробненай сумесі расліннага паходжання.

На наступны дзень у маладзечанца адабралі здробненую макавую саломку.

У абодвух выпадках праводзіцца праверка.

**Ірына РАБУШКА.**

## Абрабавалі магазін

МАЛАДЗЕЧНА. Уноч на 10 лютага невядомыя залезлі ў магазін №65, што ў Мароськах. Яны выкралі спіртныя напоі, цыгарэты і прадукты харчавання. Узбуджана крымінальная справа.

**Ірына РАБУШКА.**

## Фальшыўкі

МАЛАДЗЕЧНА. У панядзелак затрымалі жанчыну, якая спрабавала збыць 50 долараў з прыкметамі падробкі.

Гэта адбылося ў абменным пункце, што ў гандлёвым доме "Няміга".

Узбуджана крымінальная справа.

**Ірына РАБУШКА.**

## Залезлі ў хату

МАЛАДЗЕЧНА. 11 лютага злодзеі выкралі з прыватнага дома газавы балон, дыван і іншыя рэчы. Следча-аператыўная група злодзеяў затрымала.

Узбуджана крымінальная справа.

**Ірына РАБУШКА.**

## Затрымалі аўтацыстэрну

МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак супрацоўнікі дзяржаўтаінспекцыі затрымалі аўтацыстэрну. У ёй везлі 2480 дэкалітраў спірту. У дакументах, што прыкладаліся да грузу, знайшлі парушэнні. Здарэнне адбылося а палове 12-й гадзіны ночы на вуліцы Чарняхоўскага.

Праводзіцца праверка.

**Ірына РАБУШКА.**

## Фальшывыя 100 долараў

МЯДЗЕЛ. У Купе выявілі падробленую 100-доларавую купюру. Прынесла яе здаваць у абменны пункт "Беларусбанка" жыхарка пасёлка. Летась у Мядзеле было зафіксавана некалькі падобных выпадкаў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Злодзеі ў інтэрнаце

МАЛАДЗЕЧНА. 7 лютага з пакоя інтэрната гандлёва-эканамічнага каледжа нехта выкраў 40 тысяч рублёў.

А за 4 дні да гэтага з іншага пакоя праз разбітае шкло форткі хтосьці вынес тэлевізійную антэну.

**Ірына РАБУШКА.**

## Без грошай

МАЛАДЗЕЧНА. 8 лютага на калгасным рынку ў жанчыны выкралі з сумачкі пашпарт і грошы.

Узбуджана крымінальная справа.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ТРАНСПАРТ

**Колькасць аварый**

| | |
|---|---|
| 2000 год | 405 |
| 2001 год | 800 |
| 2002 год | 1007 |

**Аварыі, дзе людзі атрымалі раненні**

| | |
|---|---|
| 2000 год | 102 |
| 2001 год | 29 |
| 2002 год | 113 |

**Аварыі, дзе людзі загінулі**

| | |
|---|---|
| 2000 год | 17 |
| 2001 год | 125 |
| 2002 год | 34 |




# Цішэй едзеш – далей...

**МАЛАДЗЕЧНА. Колькасць аварый штогод значна павялічваецца. Начальнік дзяржаўтаінспекцыі Уладзімір Балкоўскі расказаў, чаму летась зафіксавана больш чым у 2 разы аварый у параўнанні з дадзенымі 2001 года.**

Ён назваў 4 асноўныя прычыны:

– увядзенне страхавой грамадзянскай адказнасці. Раней вадзіцелі паміж сабой маглі на месцы дамовіцца, калі здарэнне было не надта сур'ёзным. Цяпер удзельнікі аварыі выклікаюць супрацоўнікаў ДАІ для афармлення пратакола, каб потым звярнуцца ў страхавую кампанію;

– культура вядзення аўтамабіля жыхароў Маладзечаншчыны пакідае жадаць лепшага;

– за 2002 год назіраўся даволі значны прырост аўтатранспарту — больш за 2500 адзінак;

– дарогі ў вельмі дрэнным стане. Засталіся пасля 70-80 гадоў, перспектывы абнаўлення пакуль не прадбачыцца.

Уладзімір Балкоўскі расказаў, што каля 40% аварый адбылося з удзелам пешаходаў, прычым у большасці выпадкаў вінаватымі заставаліся менавіта яны. З-за няўважлівасці ці знаходзіліся у стане алкагольнага ап'янення. Для параўнання, толькі 9 вадзіцеляў са 136 выпадкаў падчас здарэнняў былі нецвярозымі.

Асаблівую катэгорыю складаюць матацыклісты. Гэта той выпадак, калі пры сутыкненні траўмы атрымліваюць і пешаходы, і вадзіцелі. Дарэчы, 13% аварый звязаны непасрэдна з удзелам апошніх. Хутка наступіць вясенне-летні перыяд, калі хлопцы ў вёсках сядуць на сваіх "жалезных" коней і паедуць на дыскатэкі. Праблем прыбавіцца, бо апошнім часам без ужывання алкагольных напояў на танцы мала хто едзе. А тым больш вяртаецца.

Да вадзіцеляў дзяржаўнага транспарту ў начальніка ДАІ асаблівых пытанняў няма, там існуюць праблемы з тэхнічным станам машын.

— У аварыі трапляюць на тых аўтамабілях, якія больш распаўсюджаныя, - гаворыць Уладзімір Балкоўскі. — Прыкладам, у горадзе зафіксавана каля 200 японскай вытворчасці і каля 2000 "Фольксвагенаў". Без каментарыяў. Яшчэ шмат "Опеляў". Асобы да 2 гадоў кіравання аўтамабілем няўважлівыя, "ліхачы", неспрактыкаваныя, што прыводзіць, зразумела, да аварый.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 6.02 руб. | 13.02 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1957,00 | 1957,00 |
| Еўра | 2136,36 | 2103,97 |
| Злоты | 512,44 | 507,92 |
| Літ | 618,83 | 609,44 |
| Расійскі рубель | 61,47 | 61,72 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1940/1965 | 1940/1965 |

## Маладзечна. Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 5.02 | 12.02 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 10500 | 8900 |
| Сасіскі, 1 кг | 4510 | 3550 |
| Селядзец, 1 кг | 2800 | 2800 |
| Рыс, 1 кг | 740 | 720 |
| Грэчка, 1 кг | 1100 | 1100 |
| Цукар, 1 кг | 1045 | 1045 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1200 | 1200 |
| Алей, 1 л | 1600 | 1600 |
| Маянэз, 200 г | 400 | 350 |
| Кава «Пеле, 100 г | 2000 | 2000 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 650 | 650 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 600 | 600 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 700 | 850 |
| Капуста, 1 кг | 720 | 720 |
| Морква, 1 кг | 900 | 900 |
| Лімоны, 1 кг | 2400 | 2450 |
| Апельсіны, 1 кг | 1550 | 1700 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Малако, 1 л | 700 | 700 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 4000 | 4000 |
| Тварог, 1 кг | 1700 | 1600 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1600 | 1700 |
| Бульба, 1 вядро | 4000 | 4000 |
| Яблыкі, 1 кг | 1300 | 1200 |

# Алергія – хвароба цывілізацыі

**Алергіяй называецца празмерная, неадэкватная рэакцыя арганізма на пэўнае рэчыва – алерген. Колькасць і разнастайнасць іх вельмі вялікая – ад каровінага малака да хатняга пылу.**

**Найбольш часты механізм развіцця выглядае так: алерген трапляе ў арганізм, будуецца абарона – у спецыялізаваных клетках назапашваюцца адмысловыя субстанцыі – антыцелы, якія пры паўторным нападанні алергену вызваляюцца і выклікаюць мноства фізіялагічных зменаў – высыпы на скуры, слёзацякчэнне, насмарк ды інш. Разнастайнасць сімптомаў, іх камбінацыі могуць значна ўскладняць дыягностыку.**

## Алергены вакол нас

### Цыгарэтны дым

**Адзін з самых шкодных алергенаў. Пасля нараджэння дзіцяці бацьку варта кінуць курыць – ганарыцца сабой можна будзе да канца жыцця.**

### Хатні пыл

**Недастаткова штодня вільготна прыбіраць дзіцячы пакой, трэба з яго прыбраць усё тое, што збірае пыл – дываны, ворсістыя посцілкі, чучалы звяроў і птушак, пухнатыя мяккія цацкі (хай дзіця ацэніць іх пазней) ды інш.**

### Поўсць жывёлаў

**Перш за ўсё сабак, катоў, хамякоў і марскіх свінак. Гэта не значыць, што ўсіх "меншых братоў" трэба пазбавіць месца пражывання ці, крый Божа, жыцця. Проста варта ўважлівей назіраць за рэакцыяй дзіцяці.**

### Пасцельныя кляшчы

**Мікраскапічныя жывёлы, што водзяцца ў бялізне, харчуюцца адмерлымі лускавінкамі чалавечае скуры і маюць алергенныя выдзяленні. Рэгулярнае мыццё, прасаванне і змена бялізны дазволіць знікнуць гэтай праблеме.**

## Добры дадатак

**Добрым дадаткам да асноўнай лячэбнай праграмы будзе гарбата з меліссы ці мяты на ноч, каб дзіця меней драпала сябе, свежы бярозавы сок па 20-50 мл штодня ў якасці крыніцы вітамінаў, штодзённыя ванны з гатаванай вады ўмеранай тэмпературы (32-35 °С) з дадаткам адвараў зёлак (рамонку, душыцы, крапівы, лістоў бярозы, мяты, кары дуба ды інш.).**

Праблема алергіі і алергічных хваробаў аднесна новая ў сучаснай медыцыне. Сваю надзвычайную актуальнасць яна набыла за два апошнія дзесяцігоддзі. Звязана гэта з інтэнсіфікацыяй жыцця, навукова-тэхнічным прагрэсам і пагаршэннем стану навакольнага асяроддзя: забруджваннем вады, зямлі, паветра, ужываннем кансервантаў, харчовых дадаткаў і сінтэтычных лекаў. Вялікую ролю ў развіцці алергіі мае спадчынная прадвызначанасць. Навука сведчыць, што калі адзін з бацькоў мае алергію, верагоднасць яе развіцця ў нашчадкаў складае 30%, а калі абодва – да 70%.

### Небяспечнае малако

Памятаеце аптымістычны мульцік, у якім мажны плямісты бычок басавіта спяваў: "Піце дзеці малако – будзеце здаровы"? На жаль, ён трохі памыляўся, бо сёння ў маленькіх дзяцей алергія найчасцей узнікае якраз на бялок каровінага малака. З такімі праблемамі сутыкаюцца бацькі дзяцей-штучнікаў. (Гаворка не пра немаўлят з прабіркі, а пра тых, каго кормяць малочнымі сумесямі, ў большасці заснаваных на гэтым бялку.) Звычайна такая алергія праяўляецца ў выглядзе алергадэрматозаў – высыпаў на скуры, якія ўзнікаюць на шчаках, руках, ягадзіцах ці могуць закранаць значныя ўчасткі паверхні цела. Часта гэтыя змены суправаджаюцца свербам і кішэчнымі разладамі – у выніку малое непакоіцца, не спіць, імкнецца сябе драпаць, рызыкуючы занесці інфекцыю, і паступова даводзіць ўласных бацькоў да роспачы.

Што можна параіць у такіх выпадках?

Часам праблему можна вырашыць заменай сумесі на іншую, больш блізкую да груднога малака па ўтрыманні бялку. На беларускім рынку даволі шмат якасных сумесяў: Алеся, Hipp, Humana, Semper, Nestle ды інш. Выбраць найлепшую меню для вашага немаўляткі дапаможа педыятр. Пры лёгкіх і сярэдніх цяжкасці формах хваробы рэкамендуюцца менш алергенныя кісламалочныя прадукты. Дзецям з "алергічных" сем'яў варта спажываць (безумоўна пасля кансультацыі з доктарам) адмысловую сумесь, дзе бялок знаходзіцца ў часткова расшчэпленым на менш алергенныя кампаненты стане (напрыклад Hipp HA, ці Humana HA). Даказана, што ўжыванне гіпаалергеннага харчавання ў першыя 4-6 месяцаў жыцця можа прадухіліць развіццё алергічных хваробаў на 2-3 гады, а магчыма, і на ўсё жыццё.



Многія прадукты – крыніца алергенаў. Фота IREX/ProMedia.

Калі пасля некалькіх няўдалых спробаў замены сумесяў высвятляецца поўная непераноснасць малочнага, лекар можа параіць так званыя соевыя сумесі (бялок соі па сваіх якасцях не саступае бялку каровінага малака). Калі ж узнікне алергія на сою, ёсць гідралізаты бялку – сумесі з высокай ступенню яго расшчаплення.

Найпрасцейшы шлях знікнення "малочнай" алергіі – груднае кармленне хаця б да 4-6 месяцаў. Звычайна гэтага дастаткова, каб засцерагчы дзіця ў раннім узросце і ўмацаваць ягоны імунітэт надалей.

### Мамін рацыён і здароўе немаўляці

Нават груднае кармленне не ёсць панацэя для дзіцяці з "алергічнай сям'і", таму што яно моцна залежыць ад таго, чым харчуецца мама. Найбольш небяспечнымі з'яўляюцца: малако, ялавічына, асабліва цяляціна, яйкі, рыба і марскія прадукты (крабы, кальмары ды інш.), цытрусавыя, клубніцы, шакалад.

Важна высвятліць сувязь зменаў на скуры дзіцяці з тым, што спажывае мама, і своечасова выключыць гэта з рацыёну. Без перабольшвання, гэта вельмі складаны працэс самаабмежавання, амаль роўны подзвігу, дзе ад маці, як нікалі, патрабуецца ўважлівасць, паслядоўнасць, вялікая колькасць веры і здаровага аптымізму.

Дапаможа дзённік страваў, дзе фіксуецца дата і час харчавання мамы і дзіцяці, від прадукта, наяўнасць і выражанасць рэакцыі ў дзіцяці. Кормячая маці, а тым больш маці маленькага алергіка мусіць штодня прымаць вітаміны і кальцый у таблетках, спажываць болей натуральнай гародніны і садавіны, пазбягаць кансервантаў і штучных фарбавальнікаў, а патрэбы ў мясе імкнуцца задавальняць птушкай.

### Першыя дарослыя стравы

Час ідзе, дзіця расце і ўжо з 4–4,5 месяцаў патрабуе ўвядзення ў рацыён новых прадуктаў, якія немілагучна называюцца "прыкорм". Перад гэтым пракансультуйцеся, калі ласка, з вашым доктарам.

Маленькім алергікам, калі ў мамы хапае малака, прыкорм можна ўводзіць з 6 месяцаў, але рабіць гэта трэба надзвычай паступова і з вялікай асцярожнасцю – пачынаючы з 1 лыжачкі, уважліва назіраць за рэакцыяй дзіцяці і станам скуры. Калі ўсё добра – праз дзень можна даць большую порцыю. Новыя прадукты ўводзяцца не часцей 1 разу на 5 дзён. Варта памятаць, што ў час вірусных інфекцый, а таксама 2-3 тыдні пасля іх новыя стравы непажаданыя.

Першымі ўводзяцца сок (лепей яблычны) і гароднінавае пюрэ (лепей з кабачкоў, патысонаў ці каляровай капусты і інш.). Гародніну перад прыгатаваннем рэкамендуецца вымочваць у вадзе на працягу 6-8 гадзін. Пюрэ трэба вырабляць толькі з адной садавіны без цукру ці солі.

У 5-5,5 месяцаў у рацыёне з'яўляюцца кашы (лепей грэчневая, рысавая ці кукурузная). Кашы трэба гатаваць на вадзе, а лепей скарыстаць тыя, што прапануе прамысловасць.

У рацыён здаровых дзяцей мяса ўводзіцца з 7 месяцаў, а дзецям з алергіяй – з 5-ці. Прымальнай з'яўляецца свініна (яе бялкі лепей засвойваюцца), але толькі нятлустая. Надзвычай непажаданай з'яўляецца цяляціна, а найменш алергеннай каніна. Пры прыгатаванні мяса трэба варыць двойчы, а лепей выкарыстоўваць адмысловыя мясныя кансервы для дзяцей.

### Дзяцінства без шакаладак, марожанага і мандарынаў на Новы год

Калі ў вашага сына ці дачушкі былі выразныя праявы непераноснасці малака, надалей варта выключыць з рацыёну не толькі яго, але і некаторыя вытворныя. Малое не павінна ведаць смаку марожанага, малочных цукерак (кароўкі, ірыскі), крэмаў і шакаладу. На самой справе, больш дыскамфорт з гэтага будуць адчуваць бабулі, дзядулі ды іншыя сваякі. Але не варта дарма праваккаваць абарончыя сілы арганізма. З часам яны аслабнуць – як правіла праявы алергіі на малако цалкам мінаюць да 3-ох год. Нават ужо ў 1,5 года можна паспрабаваць даць дзіцяці лыжачку ёгурта (толькі не каляровага), і калі ўсё будзе добра, паступова павышаць яго колькасць і паўлічваць асартымент малочных вырабаў. Прадукты з моцным алергенным уздзеяннем лепей уводзіць пасля 1 года з той жа асцярожнасцю і паступовасцю, як і прыкорм.

### Некаторыя іншыя віды алергіі

Праявамі алергіі ў немаўляці можа быць чыханне, кашаль, вадзяністы насмарк, пачырваненне вачэй, слёзацячэнне, ацёк павейкаў. Калі такія праявы ўзнікаюць падчас прыборкі жытла – гэта можа быць рэакцыя на хатні пыл. Сезонны характар падобных сімптомаў (з красавіка па жнівень) сведчыць пра так званы "паліноз", ці "сенную ліхаманку" – алергію на пылок раслінаў (часцей бяроза, таполя) – часцей сустракаецца ў дзяцей пасля 2-га году.

Пачырваненне, лускаванне і сверб скуры могуць быць вынікам кантакта з пэўным пральным парашком (ці бялізнай ім памытай), крэмам для скуры, вопраткай з часткова сінтэтычнай тканіны ці футра, металічным гузікам.

Алергія на лекі (часцей на антыбіётыкі) можа праяўляцца высыпамі на скуры, чыханнем, кашлем, прыступамі задышкі, удушша, ацёкамі. Гэтыя праявы могуць быць вельмі небяспечнымі, таму не давайце больш дзіцяці гэты прэпарат і тэрмінова скантактуйцеся з доктарам.

### Як эфектыўна дапамагчы сваім дзецям

Калі вы заўважылі ў вашага дзіцяці сімптомы, падобныя на праявы алергіі, скантактуйцеся з вашым участковым педыятрам. Ён прызначыць лячэнне, і калі трэба, накіруе вас да больш "вузкага" спецыяліста – алерголага.

Андрэй ВІТУШКА,
доктар 7-й гарадской клінічнай бальніцы г. Мінска,
часопіс «Дамініка», №11, кастрычнік, 2002.



## Алергеннае ўздзеянне розных прадуктаў

**Высокае** Цэльнае малако, яйкі, рыба, марскія прадукты – крабы, кальмары, ікра ды інш., морква, памідоры, перац, пшаніца, жыта, клубніцы, суніцы, маліна, ананасы, цытрусавыя, ківі, гранаты, манга, хурма, дыня, кава, какава, шакалад, грыбы, арэхі, мёд.

**Сярэдняе** Грэчка, рыс, гарох, авёс, боб, соя, бульба, буракі, персікі, абрыкосы, бананы, вішня, журавіны, брусніцы, чарніцы, чорныя парэчкі, шыпшына, сметанкавае масла, курыца, ялавічына.

**Нізкае** Кісламалочныя прадукты, каніна, мяса труса, індычкі, нятлустыя свініна і бараніна, рафінаваны алей, проса, кукуруза, капуста (у т.л. і квяцістая), кабачкі, патысоны, агуркі, зялёныя гатункі яблыкаў і груш, чырвоныя і белыя парэчкі, пятрушка, кроп.

Куды звяртацца, калі ў вас алергія? Тэлефоны і адрасы – у наступным нумары.

# Наш зямляк Адам Гурыновіч –

*Пралятайце вы, дні,*
*Залатымі агнямі.*
*Скончу век маlады,*
*Аблятайце цвятамі...*

**(М.Багдановіч, 1917).**

Канец XIX стагоддзя адзначыўся ажыўленнем у развіцці беларускай культуры, у тым ліку і літаратуры. Пасля паражэння нацыянальна-вызваленчага паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага было забаронена нават ужываць тэрмін "беларус", не гаворачы ўжо аб выданні чаго-небудзь на беларускай мове. Але час браў сваё. З'явіліся новыя патрыёты, якім быў неабыякавы яе лёс. Ствараліся розныя падпольныя рэвалюцыйна-дэмакратычныя гурткі, якія імкнуліся абудзіць у простых людзей свядомасць і годнасць. Сярод іх былі і вядомыя беларускія пісьменнікі Францішак Багушэвіч, Янка Лучына і іншыя. Разам з імі распраўляў свае паэтычныя крылы яшчэ вельмі малады Адам Гурыновіч, жыццё і дзейнасць якога цесна звязаны з Вілейшчынай...

Нарадзіўся будучы паэт 25 (13 па старым стылі) студзеня 1869 года ў пасажным фальварку Кавалькі Вілейскага павета (цяпер Мядзельскі раён). Продкі яго бацькі былі выхадцамі з Аравіі, мелі татара-мусульманскае паходжанне, па прозвішчу Гурын. Засталіся тут, відаць, пасля паражэння татараў у бітве з войскам Вялікага княства Літоўскага пад Клецкам у 1506 годзе. Радавы герб Гурыновічаў быў "Праўдзівец", які доўгі час захоўваўся ў сямейным архіве.

Маці паэта, Элеанора, паходзіла са слаўнага гетманаўскага роду Сіняўскіх. Першым у маладой сям'і з'явіўся на свет Юзік, другім быў Адам, які меў яшчэ адно імя – Гіляры. Хрысцілі яго 3 лютага 1869 года ў Ваўкалацкім касцёле.

Неўзабаве сям'я, здаўшы фальваркі Элеаноры ў арэнду, перабралася ў спадчынны фальварак Крыстынопаль Свянцянскага павета, а гэта ўжо тэрыторыя сучаснага Вілейскага раёна. Па даных 1867 года ў Крыстынопалі было 7 жыхароў, 352 дзесяціны (прыкладна 385 гектараў) зямлі. Крыстынопаль размяшчаўся непадалёку ад вёскі Золькі, дзе цяпер знаходзіцца ферма калгаса імя Кірава. Дарэчы было б перайменаваць гэты калгас у імя Адама Гурыновіча. Не выпадкова ён напісаў верш, сюжэтна звязаны з роднымі мясцінамі і прысвечаны з'яве, сведкам якой ён быў:

*Раз у Зольках, у дзярэўні,*
*Ды случылася здарэнне,*
*Агонь неяк увайшоў,*
*З хаткі ў хатку ён пайшоў.*
*Ад дзярэўні той, што Золькі,*
*Асталіся вуглі толькі –*
*Усё агонь той пераброў,*
*Людску працу змарнаваў.*
*Як агонь той углядзелі,*
*Скарэй-скарэй паляцелі,*
*Сталі ведрашкі хватаць,*
*Ды агонь той заліваць.*
*Залівалі мы вадою,*
*Засыпалі мы зямлёю*
*У круг хаціны "аступіць",*
*Каб агонь той загасіць.*
*Памарыліcь, папацелі,*
*Агню згасіць не паспелі,*
*Ды скараў нас, відаць, бог,*
*Што агонь нас перамог.*
*А вы-ж, людцы, тое знайце,*
*Густа хатак не стаўляйце,*
*Хаткі густа настаўляць, -*
*Агню стравушку даваць,*
*Бо агонь як пападзецца,*
*З стрэшкі ў стрэшку*
*прабярэцца,*
*Тады нельга рады даць,*
*Яго нельга пераняць.*
*А вы-ж, братцы, тое знайце,*
*Радзей хаткі расстаўляйце,*
*Калі дзе што загарыць,*
*Лацвей будзе загасіць.*
*Пакуль у вулку прабярэцца,*
*Па дарожцы растрасецца.*
*Пакуль у хатку перайдзець,*
*Ля калодца прападзець.*
*Вот вам, людцы, для навукі,*
*Як карыставаць з прынукі,*
*Як прынуку распазнаць*
*Ды карысць з яе ўзнаць.*

Бацькі Адама мелі яшчэ некалькі дробных фальваркаў, у тым ліку і на Вілейшчыне – Курнікі і Маліноўшчына. Першы знаходзіўся непадалёку ад сучаснай вёскі Курнікі, усяго за 2 км ад Крыстынопаля. Месцазнаходжанне другога пакуль устанавіць не ўдалося.

Дзяцей у сям'і прыбаўлялася. З'явіліся яшчэ два сыны Ян і Станіслаў і іх сястрычкі Канстанцыя і Гелена (Гэлька). Але неўзабаве ў 1876 на 42-м годзе жыцця памірае бацька, пакінуўшы іх на рукі 28-гадовай удавы. Ёсць звесткі, што бацька Адама Калікст Іасафат удзельнічаў у паўстанні 1863 года на баку паплечнікаў Каліноўскага. Непадалёку ад гэтых мясцін дзейнічаў паўстанцкі атрад Свянцянскага павета на чале з былым царскім афіцэрам Густавам Чаховічам. Гурыновіч аказваў ім пасільную матэрыяльную дапамогу.

Крыстынопаль, як і іншыя спадчынныя фальваркі, належаў таксама брату Калікста Абдону, які служыў камісарам у маёнтку Канстанцінава генерала Хамінскага. У фальварку бываў рэдка, тут жылі яго жонка і яе брат Юхневіч. Ён хаваў дома зброю, якую пасля паўстання загадана было ўсім здаць. Дастаўляў у атрад прадукты харчавання, сабраныя ў людзей.

Калікста Гурыновіча прыцягвалі потым да следства па справе паўстанцаў, але яму неяк удалося апраўдацца. Напэўна, не выпадкова пазней у сынавых нататках паліцыя знайшла запісы пра Кастуся Каліноўскага. Разам з бацькам Адама быў арыштаваны аканом і лоўчы ўладальніцы Чурлёнскага маёнтка Бачкоўскай Андрэй Палачанскі. Па меркаванні некаторых гісторыкаў, быў той сваяком паэта Івана Шэмет-Палачанскага, вядомага як аўтара паэм "Даўгінаўскі пагром", "Вяселле ў Беляка", "Барысаў камень" і іншых. Ён нарадзіўся ці то ў вёсцы Вуткі, ці то ў Грэліках, якія цяпер зліліся з вёскай Засценкі. Прозвішча Палачанскіх яшчэ нядаўна сустракалася на Іжаншчыне. 24 мая 1863 года атрад паўстанцаў быў разбіты ў чыстым полі паміж Вуткамі і Любкамі. Андрэю Палачанскаму выратавацца не ўдалося, і ён быў сасланы ў Сібір.

Бацькі дбалі аб набыцці дзяцьмі добрай адукацыі. Спачатку іх вучылі ў Крыстынопалі нанятыя дамашнія настаўнікі, а затым адпраўлялі ў Вільню. Старэйшы Юзік вучыўся ў юнкерскай школе, а Адам і Ян трапілі ў рэальнае вучылішча.

Сям'я Гурыновічаў, каб забяспечыць дзяцей кватэрай, прыдбала ў Вільні невялічкі домік. Бацькі пры жыцці пасадзілі раскошны сад, у квецені і ценю якога пазней хавалася і сама будыніна. Не адно дрэўца вырасла там і з дзіцячых рук.

Застаўшыся адна, маці з цяжкасцю зводзіла канцы з канцамі з невялікіх даходаў сваіх фальваркаў, але старалася, каб дзеці вучыліся далей.

14 чэрвеня 1886 года Адам пасля сямі год навучання атрымаў атэстат аб заканчэнні поўнага курса Віленскага рэальнага вучылішча, а праз год – пасведчанне аб заканчэнні механіка-тэхнічнага аддзялення дадатковага класа гэтага ж вучылішча. Тады ж адным з першых здае ўступныя экзамены ў Пецярбургскі тэхналагічны інстытут амаль з адными пяцёркамі, аб чым ён з гонарам пісаў да сваёй маці. Прага да навукі, матэрыяльныя цяжкасці вымушалі яго хадзіць на заняткі паўгалодным у дзіравых гамашах, якія часта рваліся, і ён самастойна зашываў іх. У адным з пісьмаў дадому Адам прасіў прыслаць, калі гэта магчыма, грошы на боты. Халодны клімат і пастаянна мокрыя ногі прывялі яго да хваробы, і Гурыновіч вымушаны пасля лячэння ў бальніцы ўзяць акадэмічны водпуск. Аднавіўся ён у тым жа інстытуце на наступны год.

Пішучы пра навуковую дзейнасць Адама ў інстытуце, першы даследчык яго творчасці Браніслаў Тарашкевіч адзначаў, што тут ён спецыяльна займаўся ўлепшаннем паравоза і ў гэтым пытанні меў быць на дарозе да важных і цікавых вымыслаў.

З 1889 года Гурыновіч уключаецца ў студэнцкі рэвалюцыйны рух, чытае забароненыя кнігі, становіцца актыўным членам падпольнага таварыства, якое мела назву "Гуртон моладзі польска-літоўскай, беларускай і маларускай", некаторы час нават узначальваў яго. Гуртон супрацоўнічаў з групай Бруснева, якая ў свой час злілася з марксісцкай арганізацыяй "Г.М. і Ю.І.Радзевіч". Габрыель Радзевіч – пляменнік жонкі Францішка Багушэвіча. Магчыма, таму і адбылося знаёмства Адама Гурыновіча і Францішка Багушэвіча. Ёсць факт і працягу гэтага знаёмства. З 1890 года Гурыновіч вядзе перапіску з вядомым польскім мовазнаўцам, фалькларыстам, этнографам Янам Карловічам, рэдактарам часопіса "Вісла", дасылае яму народныя песні , этнаграфічныя і іншыя матэрыялы, запісаныя ў наваколлі Крыстынопаля. У прыватнасці, ад какаёўкі Кацярыны Смаленскай з Золек і Аляксандры Шляпы з вёскі Дзям'янавічы (у нядаўнім часе ссялена як хутары). У 1893 годзе праца А.Гурыновіча "Зборнік беларускіх твораў (з Вішнеўскай воласці Жодзішскай парафіі Свянцянскага павета)", усяго 165 песень і 37 загадак, была надрукавана ў часопісе "Збор ведамасцей" Кракаўскай акадэміі навук.

Вішнева – радавы маёнтак Карловічавай жонкі Ірэны, размешчаны на беразе аднайменнага возера. У ім Ян з сям'ёй жыў у 1873-1882 гадах, а потым аддаў яго ў арэнду. Некаторы час апекуном маёнтка быў Ф.Багушэвіч, а гэта ўсяго каля 10 кіламетраў ад Крыстынопаля. У лісце да Карловіча Багушэвіч пісаў, што з яго сынам Эдмундам быў на паляванні ў леснічоўцы Бондзе (Вілейскі раён), плаваў па возеры. Зразумела, што з Янам Карловічам Гурыновіча пазнаёміў сам Ф.Багушэвіч, магчыма і завочна.



Адам Гурыновіч. Паэт-дэмакрат, імя якога вядомае кожнаму школьніку з падручнікаў, нарадзіўся і памёр у нашым краі. Але шмат часу дакладныя біяграфічныя звесткі не былі вядомыя шырокай грамадскасці. Упершыню сур'ёзна заняўся гэтай праблемай Генадзь Кахаnоўскі. Вілейскі краязнаўца Анатоль Рогач працягвае пачатае Генадзем Каханоўскім. Сам ураджэнец тых мясцін на Вілейшчыне, а гэта Іжаншчына, дзе Гурыновічы мелі свае ўладанні, ён знаходзіць і даказвае новыя факты з жыцця паэта.

Фота з архіва «РГ».

Не выпадкова, бо ведаў Багушэвіча асабіста і знаёмы з яго творамі, Адам Гурыновіч прысвячае свайму духоўнаму настаўніку паэтычныя радкі:

*Дзякуй табе, браце,*
*Бурачок Мацею,*
*За тое, што ў сэрцы*
*збудзіў ты надзею,*
*Што між братоў нашых*
*знаходзяцца людзі*
*З кахаючым сэрцам*
*і баляшчай груддзяй.*
*Дзякуй табе, браце,*
*і за тыя словы,*
*Што ўспомнілі звукі*
*нашай роднай мовы,*
*Бяры, браце, дудку,*
*наладзь і жалейку,*
*Няхай песнь смутная*
*ідзе ўкалейку*
*І будзіць у сэрцах мысль*
*аб лепшай долі,*
*Якой мы не зналі*
*дагэтуль ніколі.*

Рэвалюцыйныя сувязі студэнцкага гуртка расшыраліся, дасягнулі Пляханава ў Лондане, Івана Франко ў Львове... У пісьме ад 12 лістапада 1892 года ў Цюрых да сваёй сяброўкі Станіславы Пяткевіч, якая там вучылася, Адам прасіў прыслаць цэлы стос нелегальнай літаратуры. Сярод кніг ён заказваў найбольш каштоўныя для маладзёжнага гуртка, у тым ліку 20 найменняў на польскай мове, 22 на рускай, 6 на ўкраінскай (маларускай) і 2 на беларускай: "Пра багацтва ды беднасць" і "Дудка Беларуская". Усяго 900 экземпляраў.

Са Станіславай (поўнае імя Станіслава-Марыя-Агата) Уладзіславаўнай Пяткевіч, дачкой калежскага асесара, Адама спачатку звязвала толькі дружба, пазней пачуццё рабілася больш цёплым і сардэчным. Але дзяўчына была вельмі захоплена запалам рэвалюцыйнай барацьбы, гатовая ахвяраваць дзеля гэтага і сваім каханнем. Таму згадзілася дзеля супольных мэт уступіць у фіктыўны шлюб. Станіслава намёкамі жадала свайму нарачонаму напаткаць сваё сапраўднае шчасце.

У жыцці паэта была яшчэ адна дзяўчына Роза Швайніцкая, якая была заручана з яго родным братам Янам-Казімірам, хоць і не кахала яго. Яе больш прываблівў Адам, часта пісала яму пяшчотныя, даверлівыя, а часам і павучальныя пісьмы, якія падпісвала словам "Чужая Роза".

Адаму Гурыновічу ўдалося закончыць чатыры курсы інстытута. Дакументаў, сведчых аб атрыманні ім дыплома, пакуль не знайшлося , але застаўся аўтограф, які пацвярджае гэту надзею:

*Вот, наконец-то, слава Богу,*
*Я аттестат держу в руках,*
*Держу, а сердце*
*бьет тревогу,*
*И неотвязный шум в ушах.*

Тым часам з 9 мая 1893 года ў некаторых студэнтаў Пецярбурга, якія былі звязаны з дзейнасцю маладзёжных гуртkоў, пачаліся вобыскі. Ва ўсіх западазроных асобаў былі знойдзены рэвалюцыйныя выданні, пераважна на польскай мове. Пачаліся арышты і допыты.

# вядомае і невядомае

12 чэрвеня Дэпартамент паліцыі ў данясенні начальніку Віленскага губернскага жандарскага ўпраўлення прасіць устанавіць па прыбыцці ў Вільню Адама Гурыновіча і Станіславы Пяткевіч пільны за імі нагляд. Вышэйзгаданае пісьмо было перахоплена паліцыяй. Але сувязь гурткоўцаў з падпольным рухам была надзвычай шырокая, і яны змаглі атрымаць неабходную літаратуру ў падпольных арганізацыях Вільні і Панявежыса. Канчаткова дапамагла ім у гэтым Р.Швайніцкая. Праз два дні ўжо шыфраванай тэлеграмай на той жа адрас паступае паведамленне, што 10-га дня Гурыновіч выехаў у Вільню і яго неабходна абыскаць, арыштаваць і адправіць у сталіцу. 16 чэрвеня пры вобыску на яго кватэры была знойдзена значная колькасць, як гаварылася ў пастанаўленні аб арышце, злачынных выданняў.

А.Гурыновіч быў спачатку змешчаны ў дом папярэдняга зняволення, а пасля перапраўлены ў Петрапаўлаўскую крэпасць. Там жа аказаліся яго сябры і Р.Швайніцкая. Допыты пачаліся толькі ў кастрычніку.

У канцы лістапада ў сувязі з абвастрэннем хваробы Адам быў вызвалены з муроў і адпраўлены пад нагляд паліцыі ў Крыстынопаль. Была адпушчана на свабоду і Роза.

Дома Гурыновіч акрамя паэзіі займаўся гаспадарчымі справамі, любіў сталярнічаць, марыў да апошніх хвілін свайго жыцця аб хутчэйшым выздараўленні і вяртанні да жаданай справы, будаваў планы на будучыню. Але невылечная ў той час "чорная воспа" перамагла. І ён памёр 14(26) студзеня (раней даваліся другія даты) ў свае толькі 25 гадоў. Праз некалькі дзён пасля гэтага на адрас паэта прыйшло пісьмо ад Розы, у якім яна, хаця і ведала пра цяжкую хваробу Адама, прызнаецца яму ў сваім высакародным, вялікім пачуцці і гатова прыбыць да яго па першым клічы, не баючыся асуджэння родзічаў каханага. Але ўжо было позна.

Паэтычны талент Гурыновіча толькі пачынаў загарацца і раптам патух, як тая зорка, што скацілася па небасхіле. Пры яго жыцці не было надрукавана ніводнага верша. І ўсё ж спадчына А.Гурыновіча, як прадстаўніка беларускай літаратуры XIX стагоддзя, захавалася найбольш поўна, хаця і мела страты. Вядома, што пры вобыску паліцыяй у 1896 годзе ў яго былі забраны 8 сшыткаў з рукапісамі на беларускай мове, якія праз паўгода нарэшце трапілі ў Дэпартамент паліцыі ў Пецярбурзе. Прадстаўнікі Дэпартамента адразу звярнуліся ў Віленскае губернскае жандарскае ўпраўленне з просьбай перакласці іх на рускую мову, на што атрымалі фармальны адказ аб адсутнасці на месцы асоб, якія ведалі б беларускую гаворку. Далей сшыткі перасылаюцца ў Мінск. 3 лютага 1894 года, калі А.Гурыновіча ўжо не было ў жывых, начальнік Мінскага губернскага жандарскага ўпраўлення, які падышоў да даручанай справы больш адказна, пісаў у Пецярбург: "...з 8 сшыткаў на беларускай гаворцы, адабраных у Гурыновіча, уважліва разгледжаны толькі чатыры, якія пры гэтым і прадстаўляюцца. У адным з іх, пазначаным мною №1, змешчаны артыкулы яўна рэвалюцыйнага зместу ў сэнсе польскага паўстання. Адносяцца яны да часу паўстання 1862г. (1862г. запісаны, відаць, памылкова. Патрэбна чытаць 1863г. – А.Р.). Сшытак гэты перакладзены падрадкова. Пра змест астатніх 3 сшыткаў, паколькі ў ім няма нічога заганнага, выкладзена коратка. 4 сшыткі, што засталіся ў мяне, прагледжаны толькі павярхоўна і, відаць, нічога палітычнага не змяшчаюць. Пасля больш уважлівага іх разгляду будуць прадстаўлены мною дадаткова тыдні праз два".



У метрычнай кнізе, якую ў свой час выратаваў ад знішчэння Генадзь Каханоўскі, на 309-й старонцы зроблены запіс: «1869 года февраля 3 дня в Волколатском римско-католическом приходском костёле окрещен младенец по имени Адам-Гилярий ксендзом Абдоном Андрейковичем администратором сего костела с совершением всего обряда таинства.» Гэта быў першы дакумент, у якім згадваўся Адам Гурыновіч. Кніга захоўваецца ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі ў Маладзечне. Музейныя фонды могуць раскрыць не адну загадку. Фота Ірыны РАБУШКІ.

Далейшы лёс гэтых 8 сшыткаў застаўся невядомы. Частка архіва была знішчана і сваякамі, у першую чаргу родным братам паэта – Янам Гурыновічам, і канфіскавана падчас вобыску і арышту Адама жандармамі. "Усё, што было лепшае, рэвалюцыйнае сваім зместам, найбольш спелае ў мастацкіх і ідэйных адносінах, на жаль, не захавалася..." – сцвярджаў вядомы дзеяч заходнебеларускага руху Янка Шутовіч. Яшчэ ў сярэдзіне 30-х гадоў XX стагоддзя ён наведаў месцы, звязаныя з жыццём А.Гурыновіча, у тым ліку Кавалькі і Крыстынопаль, але нічога каштоўнага са спадчыны паэта ўжо знайсці не ўдалося. У Крыстынопалі, па яго сведчанні, сямейныя могілкі былі знішчаны ў гады першай сусветнай вайны. Непадалёку адсюль доўгі час праходзіла лінія фронту.

Патрэбна адзначыць, што ў 1997 годзе група краязнаўцаў Вілейшчыны, сярод якіх быў і аўтар гэтага артыкула, падрабязна абследавала могільнік вёскі Зольці, на якім хаваліся Гурыновічы. Адна са старажылаў бліжэйшай вёскі Муляры, якая добра была знаёма з гісторыяй і лёсам сям'і паэта, сцвярджала, што магіла Адама знаходзілася побач з магілай яго бабулі па бацькавай лініі і паказала на рэшткі помніка на ёй – груду камянёў.

Творчая спадчына А.Гурыновіча зберагласся, дзякуючы яго родзічам, у асноўным сястры Канстанцыі (па мужу Странкоўскай), якая пазней жыла ў Кавалях (памерла ў 1935 годзе), і іх пляменніцы Яніны Гурыновіч.

Яна нарадзілася ў год смерці свайго дзядзькі-паэта ў Крыстынопалі і стала сусветна вядомай вучонай у галіне неўралогіі і фізіялогіі. Яшчэ калі вучылася ў Віленскім Марыінскім інстытуце, з ёй пазнаёміўся выдатны беларускі вучоны і грамадскі дзеяч Браніслаў Тарашкевіч, а праз яе з сястрой А.Гурыновіча Канстанцыяй і братам Янам. Тарашкевічу ўдалося на аснове вывучэння часткі рукапісу паэта ў 1921 годзе апублікаваць у газеце "Беларускі звон" артыкул "Адам Гурыновіч". Там былі такія словы: "Шчаслівым здарэннем захавалася і цяпер можа паказацца на свет у друкаванай вопратцы невядомая дагэтуль літаратурная спадчына Адама Гурыновіча, беларускага паэта канца 80-х і пачатку 90-х гадоў... Тое, што знаходзіцца цяпер у нашых руках, гэта толькі невялікая часціна творчасці Гурыновіча, і, магчыма, знойдуцца йшчэ яго творы". Далей прыводзіўся спіс 24-х вершаў – сваіх і перакладаў, частка якіх была надрукавана, спасылка на багаты этнаграфічны матэрыял, сабраны Гурыновічам у Свянцянскім павеце.

На пачатку 30-х гадоў Я.Гурыновіч становіцца дацэнтам Віленскага універсітэта, доктарам медыцыны. Выкарыстаную Тарашкевічам частку рукапісаў яна перадае ў віленскі Беларускі музей, а адтуль – у Віленскую акадэмічную бібліятэку. Сустракалася з Янкам Купалам, знаёміла яго з творчасцю брата.

Я.Шутовіч, пазнаёміўшыся з пляменніцай паэта, так характарызаваў яе: "Яніна Гурыновіч з усіх родзічаў Адама, якія асталіся па ягонай заўчаснай смерці, найбольш рупна і добрасумленна збірала яго літаратурную спадчыну, як найдаражэйшы скарб, клапатліва яе перахоўвала, у пошуках гэтай спадчыны яна ездзіла з Вільні ў фальварак Кавалі і ў іншыя месцы, шукала яе ў будынках, на застрэшках, збірала яе ад родзічаў, сясцёр і братоў паэта, ад сваіх цётак і дзядзькоў".

Пасля вайны Я.Гурыновіч выехала ў Польшчу, дзе працавала прафесарам Торуньскага універсітэта імя Каперніка. Частку яшчэ нявыкарыстанага архіва А.Гурыновіча забрала з сабой. Перад сваёй смерцю (1967 г.), зразумеўшы каштоўнасць застаўшыхся ў яе дакументаў для беларускага народа, завяшчала іх Акадэміі навук БССР. У 1971 годзе яны сталі набыткам беларускага народа. А.Мальдзіс, які першы азнаёміўся з гэтымі матэрыяламі, характарызаваў іх як адзіны пісьменніцкі архіў, які дайшоў да нас з таго часу.

Аднак у 1980 годзе высветлілася, што яшчэ адна частка архіва Яніны Гурыновіч пасля яе смерці трапіла ў бібліятэку Торуньскага універсітэта. Сярод яго дакументаў знаходзяцца здымкі А.Гурыновіча і дзве фотакарткі сядзібы ў Крыстынопалі. Драўляны дом уяўляў сабой пабудову на два канцы, крыты дранкай і ўпрыгожаны ганкам з калонамі – звычайны дом тагачаснага фальварка.

Паэт пісаў на трох мовах – найбольш на беларускай, а затым на польскай і рускай, рабіў пераклады класікаў А.Пушкіна, М.Някрасава, А.Талстога, І.Крылова, І.Франко, Э.Ажэшкі, А.Міцкевіча і іншых, чым вучыўся ў вялікіх майстроў прафесіяналізму, пашыраў тэматычныя і жанравыя рамкі нацыянальнай літаратуры, узбагачаў родную мову. Гэта з-пад яго пяра ўзніклі пранікнёныя радкі з паэмы апошняга "Конрад Валянрод".

*Вялля! Ты нашых ручаёў*
*матуля,*
*Дно залаціста,*
*сама як красуля,*
*Страйна ліцвячка,*
*што з ёй бярэ воду.*
*Страйнае маіць*
*сэрца і ўроду...*

Найбольш значныя творы раскрываюць рэакцыю паэта на сацыяльную несправядлівасць. Заклікаюць да помсты эксплуататарам, навеяны верай ў сілу народнага гневу, ва ўстаноўленне годнасці, самасвядомасці беларускага мужыка. Гэта найперш такія вершы, як "Перш душылі паны...", "Што ты спіш, мужычок", "Што за звук ды так громка раздаўся...", "Дружа мой, пачакай" і іншыя.

Сярод твораў на польскай мове асаблівую цікавасць выклікае вершаванае апавяданне "На фабрыцы". Акунуўшыся ў рэвалюцыйную барацьбу, пачынаючы паэт зразумеў, што рашаючую ролю тут будзе вырашаць рабочы клас, і першым з беларускіх пісьменнікаў звярнуўся да тэмы пралетарыяту, хаця і не на роднай мове.

Тэма рэвалюцыі становіцца асноўнай у яго вершах. Гурыновіч канчаткова парывае з тым класам, да якога адносіўся сам, і выносіць яму вершаваны прысуд:

*Перш душылі паны,*
*Што шляхтай зваліся,*
*Цяпер сукіны сыны*
*За нас узяліся.*

А далей вынікае расплата, якая павінна наступіць:

*Няхай хлопцы ўсе*
*Збіраюцца кучай,*
*У такім хаўрусе*
*Станімся мы тучай.*

*А з тэй тучы, як гром*
*Сярод летняй ночы,*
*Загручыць усім паном*
*Загуба ў вочы.*

Некаторыя свае творы ён падпісваў псеўданімам "Юрка", за што дамашнія часта яго так і звалі. Гэта выклікала законныя пытанні аб аўтарстве вядомага верша "Панскае ігрышча", падпісанае "Юркам", не высветленае да канца і сёння.

Адам Гурыновіч пражыў кароткае, але яркае жыццё, заўсёды быў жыццялюбам. Пра сябе ён пісаў так:

*Я немножко литератор.*
*А при случаях (!) фатор.*
*А в счастливое мгновенье,*
*Коль случится вдохновенье,*
*Я могу быть и поэтом,*
*Хоть непризнан я злым*
*светом.*
*Что увижу, опишу*
*И таким любить прошу.*
*Представляться не умею,*
*Лицемерить, лгать не смею,*
*Уж простите, коль смешу,*
*Но таким любить прошу.*

Добрая памяць пра паэта да гэтага часу жыве на радзіме. Яго імем названы вуліцы ў Вілейцы і Мядзеле. Рыхтуецца да выпуску ў Беларускім кнігазборы найбольш поўны зборнік твораў А.Гурыновіча.

Пісьмо Я.Карловічу.

"Пецярбург 20 верасня 1890г.

Шаноўны пане рэдактар!

Перапрашаю, што адважыўся дакучаць сваёй просьбай. Але даруйце мне, бо ў гэтым выпадку не ведаю, да каго звярнуцца: таму вымушаны зноў прасіць Вас.

Справа ў тым, што на адасланыя на імя пана каля дваццаці беларускіх песень, даслаў ліст, у якім Вы мне паведамілі, што "Wisia" друкаваць іх не можа і што калі я захачу, дык пан будзе ласкавы пераслаць іх у Крак(аўскую) акад(эмію). Што з імі сталася – не ведаю, паколькі ад таго часу ніякай весткі пра іх не меў. Аднак, не зважаючы на гэта, працу ў тым накірунку, дужа для мяне прывабным, не кідаў і ў часе вакацый рабіў, што мог. Я сабраў яшчэ каля 200 розных песенек, якія хацеў, калі такое яшчэ магчыма, надрукаваць разам з раней надасланымі. Дзе, як і на якіх умовах – усё роўна, бо мне як неафіту, першая апублікаваная праца дадала б болей энергіі і ахвоты да наступнай працы, якая, можа, вялікай карысці нікому не прынясе, але і шкоды, з пэўнасцю, не зробіць. За найлепшыя лічу амаль усе песенькі, запісаныя ад пакаёўкі Кацярыны Смаленскай з вёскі Зольці, прыпеўкі ад Аляксандра Шляпы з Дзям'янавіч. Паколькі, мяркуючы з Вашага ліста, "Wisia" друкаваць гэтыя песенькі не зможа, дык прасіў бы шаноўнага пана пераслаць іх у Крак. акадэмію, бо сам не ведаю, якім чынам гэта зрабіць. На перасылку далучаю пры гэтым лісце 1 р. с(рэбрам). На выпадак, калі і Кр(акаўская) ак(адэмія) не захоча друкаваць песенек, прасіў бы адаслаць іх назад. У кожным разе буду чакаць адказу шаноўнага пана з нецярплівасцю, бо праз яго даведаюся пра лёс мае працы.

Застаюся з шчырай павагаю А.Гурыновіч...".

**Анатоль РОГАЧ,**
**Вілейка.**

